# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

1933




4

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

№ 4 КРАСАВІК 1933 г.

Орган Каапэрацыйна-прамысловага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗ" г. Менск, Пляц Волі, 17

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
VII-ы год выданьня

## ВЫШЭЙ СЬЦЯГ ПРАЛЕТАРСКАГА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ

У „Правде" ня раз друкаваліся матар'ялы, якія сьведчаць аб актывізацыі разгромленых і выбітых з эканамічнай каляіны мясцовых буржуазна-кулацкіх нацыяналісцкіх рэштак і аб грубейшых скажэньнях ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Заслугоўвае асаблівае ўвагі ліст ЦК КП(б)Б і СНК БССР („Правда" ад 4 сакавіка) „Аб памылках партыйных і савецкіх арганізацый Беларусі ў нацыянальным пытаньні". У гэтым лісьце яны прызнаюць, што многія кіруючыя партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі „не вядуць бальшавіцкай барацьбы за асноўныя прынцыны інтэрнацыяналізму і ў радзе выпадкаў патураюць буржуазна-кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям", і гэта, ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні і перасьцярогі з боку ЦК УсеКП(б).

Савецкі саюз самая шматнацыянальная краіна ў сьвеце і разам з тым самая „дасканалая арганізацыя супрацоўніцтва народаў" **(Сталін)**.

„Мы праціўнікі нацыянальнай варожасьці, нацыянальнай рознасьці, нацыянальнай абасобленасьці.

Мы міжнароднікі... інтэрнацыяналісты... „Гэты лёзунг Леніна напісала на сваім сьцягу наша партыя. Кастрычніцкая рэвалюцыя паставіла крыж на калёнізатарскай, русіфікатарскай палітыцы царскага ўраду і высунула на сцэну раней забытыя народнасьці, прабудзіла іх да новага жыцьця, да новага развіцьця на сацыялістычнай аснове. Пазнаёмцеся бліжэй з вынікамі першай пяцігодкі і вы зьдзівіцеся радыкальнай зьменай аблічча ўсіх народаў, аб'яднаных ў Савецкі саюз. У нацыянальных рэспубліках і абласьцях краіны няўхільна мацнее савецкая дзяржаўнасьць. З кожным годам вырастаюць ачагі сацыялістычнай індустрыі, калектывізуецца сельская гаспадарка, ліквідуюцца фэадальна-байскія, кулацкія элементы, выкарчоўваюцца самыя глыбокія карэньні эксплёатацыі. Павялічваецца сетка школ, газэт і тэатраў на мясцовых мовах. Растуць уласныя пралетарскія кадры, што яшчэ больш цэмантуе апору пралетарскай дыктатуры ў былых калёніях расійскай буржуазіі.

Дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы народы Савецкага саюзу—Татарыя, Башкірыя, Казакстан, Кіргізія, Дагестан і г. д.—здолелі перайсьці ад розных форм гаспадаркі і патрыярхальна-родавага быту непасрэдна да сацыялістычнага будаўніцтва, мінаючы капіталістычны шлях разьвіцьця.

Поўнасьцю забясьпечана магчымасьць свабоднага разьвіцьця і паасобным нацыянальным меншасьцям, якія падпадалі пры панаваньні капіталістаў і памешчыкаў нячуваным ганеньням.

Які найвялікшы кантраст са становішчам шматмільённых мас працоўных Кітаю, Інданэзіі, Марока, Альжыру, Конга і г. д., якія знаходзяцца пад цяжкім прэсам уціску з боку імпэрыялістычных драпежнікаў Эўропы, Амэрыкі і ўласнай буржуазіі.

Уступленьне СССР у другую пяцігодку сацыялістычнага будаўніцтва азначае яшчэ большы гаспадарчы і культурны ўздым і росквіт нацыянальных рэспублік і абласьцей пашай вялікай краіны.

Трэба, аднак, мець на ўвазе, што ў нацыянальным пытаньні выключна шкодна пакладацца на самацёк. Посьпехі далейшага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі будуць тым больш значнымі, калі кожная партыйная арганізацыя, кожны камуніст глыбока ўсьвядоміць тое новае, што ёсьць зараз у клясавай барацьбе ўнутры краіны, калі яны з яшчэ большай пасьлядоўнасьцю і непрымірымасьцю будуць змагацца за лінію партыі ў нацыянальным пытаньні супроць усіх і ўсякіх ад яе адхіленьняў. Узмацненьне магутнасьці Савецкага саюзу сустракае заўзятае супраціўленьне разьбітых контррэвалюцыйных, буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных груп, няўхільна атрымліваючы свой адбітак і ўнутры партыі. Клясавы вораг і на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва пацярпеўшы рашаючае паражэньне ў адкрытых баёх, прабуе зараз іншымі спосабамі, іншымі сродкамі накіраваць супроць нас свае апошнія сілы, роспачлівую злосьць і нянавісьць. Ад мэтадаў няпрыкрытай барацьбы ён перайшоў да мэтадаў барацьбы завуаляванай, не атрымліваючы ў радзе выпадкаў рашучага адпору з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый.

Гэтым, перш за ўсё, і тлумачыцца тое, што за апошні час у радзе раёнаў, у прыватнасьці, Беларусі, Украіны, а таксама Сярэдняй Азіі і Казакстану, далёка не адзіныя выпадкі пранікненьня шавіністаў на паасобныя вучасткі сацыялістычнага будаўніцтва, у асобныя зьвеньні савецкага і прафсаюзнага апарату, асабліва ў зямельныя органы і культурна-асьветныя ўстановы, а таксама ў школы, ВНУ і нават у рады партыі і камсамолу.

Гэтым у сваю чаргу тлумачыцца і тое, што ў радзе месц тых-жа рэспублік ажывіліся ўхілісты ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму і мясцовага нацыяналізму.

Сутнасьць ухілу да вялікарускага шавінізму, як ня раз указваў т. Сталін, заключаецца перш за ўсё ў імкненьні абыйсьці нацыянальныя рознасьці мовы, культуры, быту, разьвянчаць палітыку партыі па нацыяналізацыі апарату, прэсы, школы і іншых арганізацый і тым самым падарваць прынцып нацыянальнага роўнапраўя і падрыхтаваць ліквідацыю

нацыянальных рэспублік і абласьцей. Іменна ў гэтым кірунку і арудуюць зараз вялікарускія шавіністы і іх агенты ўнутры партыі.

„Палітыка“ вялікадзяржаўных ухілістаў зьяўляецца капітулянцкай перад труднасьцямі нацыянальна-культурнага будаўніцтва і накіравана яна, таксама як і „тэорыя“ аб аслабленьні клясавай барацьбы, аб „плаўным“ ходзе разьвіцьця і аб адміраньні пралетарскай дзяржавы, да падрыву савецкай улады. Вялікадзяржаўны ўхіл зьяўляецца галоўнай небясьпекай у нацыянальным пытаньні нашай партыі, бо ён у сваю чаргу стварае спрыяючую глебу для распальваньня нацыяналістычных пачуцьцяў сярод мас і тым самым узмацняе пазыцыі мясцовых буржуазна-кулацкіх і байскіх элемэнтаў і іх суўдзельнікаў унутры партыі. У выніку гэтага часамі ўхіл да мясцовага нацыяналізму набывае на паасобных вучастках і ў паасобных раёнах асаблівую надзейнасьць. У гэтым мы ўпэўніваемся зараз на прыкладзе тэй-жа Беларусі, а таксама Украіны і раду іншых нацыянальных рэспублік.

Як вядома—на гэта таксама ня раз указваў тав. Сталін—сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму заключаецца перш за ўсё ў імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, адыйсьці ад агульнага патоку сацыялістычнага будаўніцтва, ня бачыць таго, што збліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адну ад другой. Іменна ў гэтым кірунку і дзейнічае зараз ахвосьце разгромленых буржуазна-кулацкіх, нацдэмаўскіх і пятлюраўскіх банд і іх агенты ўнутры партыі, часта карыстаючыся клясавай сьлепатой мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. Невыпадкова таму, што ў радзе раёнаў Беларусі, Украіны, Сярэдняй Азіі і Казакстану контррэвалюцыйныя нацыяналістычныя элементы і іх агенты прабавалі скарыстаць усе сродкі, у тым ліку школьныя катэдры, старонкі мясцовых часопісяй, падмосткі нацыянальных тэатраў для арганізацыі контррэвалюцыйнага сабатажу мерапрыемстваў партыі і ўраду.

Побач з гэтым яны пры простым папушчэньні некаторых мясцовых партыйных і савецкіх работнікаў імкнуцца проціпастаўляць інтарэсы асобных рэспублік інтарэсам усёй краіны, усяляк ігнараваць нацыянальныя мовы і нават прасьледваць за ўжываньне гэтых моваў. У Беларусі, напрыклад, аднаго настаўніка Сьцяпура толькі за тое, што ён гутарыў з жонкай дома на расійскай мове, ухілісты да мясцовага нацыяналізму, падаграваныя нацдэмамі, ашальмавалі і абвінавацілі ў вялікарускім шавінізьме. Ці патрэбен яшчэ больш яркі прыклад беззаконасьці і грубейшага скажэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі?

Кожны сумленны камуніст, кожны сьвядомы рабочы і калгасьнік дасканала ведаюць, што наша партыя і савецкая ўлада аказваюць усялякае падтрыманьне будаўніцтву сацыялістычнай нацыянальнай культуры, ставячы ў галаву вугла палітыку „збліжэньня пралетараў і поўпралетараў розных нацыянальнасьцяй для супольнай рэволюцыйнай барацьбы...“ (З праграмы УсеКП(б)). Усякі іншы пункт гледжаньня зьяўляецца выгодным толькі нашым клясавым ворагам.

Ня можа быць сумненьня ў тым, што ўхілісты да мясцовага нацыяналізму, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам, па сутнасьці справы абараняюць у сучасны пэрыяд клясавай барацьбы і ліквідацыі кулацтва апошнія пазыцыі разгромленых, выбітых з эканамічнай каляіны буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных элемэнтаў, граючы на руку міжнародным імпэрыялістам, на руку інтэрвэнтам. Контррэвалюцыйная дзейнасьць усякага роду шавіністаў і ўхілістаў у нацыянальным пытаньні палягчаецца, а ў радзе выпадкаў аказваецца магчымай, перш за ўсё, у выніку невыстарчальнай рэвалюцыйнай пільнасьці, а часамі і грубых памылак мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. Сапраўды, хіба не аб гэтым сьведчаць нядаўна апублікаваныя ў „Правде“ матар'ялы аб вылазках і дзеяньнях антысавецкіх эсэраўскіх, нацдэмаўскіх і бундаўскіх элемэнтаў у некаторых раёнах Беларусі і ў Сярэдняй Азіі? Усе факты, выложаныя ў гэтых матар'ялах, сьведчаць, што мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі не зразумелі новай тактыкі, новых манэўраў рэштак разьбітага кулацтва і аказаліся ў палоне мясцовых нацыяналістычных элемэнтаў і ўхілістаў да іх. І хіба, нарэшце, не аб гэтым-жа сьведчаць абураючыя факты грубейшага скажэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі на Украіне. І тут у радзе раёнаў у рэзультаце прытупленьня клясавай пільнасьці, неразуменьня новых манэўраў рэштак разьбітых клясаў, недаацэнкі непарыўнай сувязі нацыянальнага пытаньня з сялянскім, атрымалася значнае аслабленьне барацьбы супроць ухілаў у нацыянальным пытаньні. У некаторых раёнах нацыянальная палітыка партыі праводзілася мэханічна, бяз уліку канкрэтных асаблівасьцяй, без неабходнай выхаваўчай работы і неабходнага кантролю, без аддаваньня належнай увагі справе падрыхтоўкі бальшавіцкіх кадраў. Усё гэта бязумоўна грала на руку буржуазна-кулацкім, пятлюраўскім элементам, палягчаючы ім магчымасьць пралазіць у савецкі апарат, калгасы і г. д.

І тут дзе-ні-дзе была практыка пазбаўленьня нацыянальных меншасьцяй права карыстацца роднай мовай. А з боку паасобных кіруючых украінскіх работнікаў узмоцнена прапагандавалася шавіністычная ідэя аб абавязковай украінізацыі паасобных раёнаў СССР.

Гэта, вядома, таксама не магло ня граць на руку кулацкім і пятлюраўскім элементам, якія акапаліся ў нова-украінізаваных раёнах па-за межамі УССР і вялі там разбуральную работу.

Клясавы вораг заўзята супраціўляецца пераможнаму будаўніцтву сацыялізму, накіроўваючы сваю зброю і супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Задача партыйных арганізацый асабліва Украіны, Беларусі, Сярэдняй Азіі, Казакстану і інш. нацыянальных рэспублік і абласьцей, а таксама мясцовага друку—заключаецца ў тым, каб сваячасовым выкрыцьцём новай тактыкі і падкопаў клясавых ворагаў зрываць з іх маску і паказаць масам сапраўднае контррэвалюцыйнае аблічча буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных элемэнтаў, ухілістаў і прымірэнцаў да іх. Неабходна ўзмацніць практычнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі, забясьпечыць вытрыманымі кадрамі ўсе вучасткі нацыянальна-культурнага будаўніцтва, шырока разгарнуць інтэрнацыянальнае выхаваньне мас.

Заваюем новыя вышыні нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу культуры народаў Савецкага саюзу.

**Вышэй сьцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!**

(Перадавая „**Правды**“).

# Праграма дзеяньняў

*(З адозвы 1 Усебеларускага зьезду калгасьнікаў да ўсіх сялян-калгасьнікаў БССР)*

Мы калгасьнікі-ўдарнікі, дэлегаты перадавых калгасаў Савецкай Беларусі, сабраліся на Усебеларускі зьезд калгасьнікаў напярэдадні веснавой сяўбы першага году другой пяцігодкі.

Гэта вясна для нас, калгасьнікаў, асаблівая. „Старой меркай задач цяперашняй вясны ня зьмерыць“. Гэта вясна павінна прынесьці нам рашучы пералом у справе паляпшэньня якасьці нашай работы і павышэньня ўраджайнасьці.

Пад кіраўніцтвам нашай камуністычнай партыі, на чале з правадыром нашай партыі тав. **Сталіным**, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, Беларусь ператварылася ў адну з перадавых сацыялістычных рэспублік СССР. На яе прасторах арганізавана 9.181 калгас, 429 саўгасаў, каля паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР ужо аб'ядналіся ў калгасы. На калгасных і саўгасных палёх працуе 2822 трактары і некалькі тысяч іншых складаных сельска-гаспадарчых машын. Створана 61 машына-трактарная станцыя.

Якая вялізарная перамена параўнаўча з ранейшым, дарэвалюцыйным часам. Усяго толькі шаснаццаць год таму назад у 1917 годзе, каля паўтара мільёна тысяч *га*—69 проц. усёй ворнай зямлі Беларусі—належала памешчыкам, папом, цэрквам і манастыром. І толькі адна трэцяя годнай зямлі належала шматмільённаму сялянству Беларусі. Больш трэці сялянскіх гаспадарак старой царскай Беларусі ня мелі пасеву, а 40 проц. ня мелі рабочай скаціны.

Малазямельле, перанаселенасьць, голад, галеча, жабрацтва — такі быў лёс старой беларускай вёскі. Дзесяткі тысяч сялян кожны год пакідалі Беларусь, каб шукаць „шчасьця“ дзе-небудзь на старане царскай Расіі або за граніцай.

А цяпер нашу Беларусь не пазнаць. Уся памешчыцкая зямля перайшла да сялян—беднякоў і серадняков. У калгасы аб'ядналіся 345.432 бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія „забылі аб распластаваньні сялян на кулакоў і беднякоў, аб эксплёатацыі беднаты з боку кулакоў, аб зруйнаваньні, якое кожны год пускала па сьвету сотні тысяч і мільёны беднаты“ **(Сталін)**.

Мінуў той час, калі наш селянін абіваў парогі ў памешчыка, кулака, багацея. Цяпер наш селянін—забясьпечаны гаспадар, жыве ў калгасе, мае ў сваім распараджэньні трактары, сельска-гаспадарчыя машыны, насенфонды- запасныя фонды.

Пераможнае разьвіцьце сацыялістычнага землярobства дало магчымасьць на чацьверты год пяцігодкі павялічыць пасеўную плошчу БССР на паўтара мільёна *га* параўнаўча з даваенным часам.

Беларусь у мінулым — каленія царскай Расіі—гэтай турмы народаў, праклятая рыса яўрэйскай аселасьці, жабрацкая, галодная краіна. Цяпер Беларусь роўнапраўная сацыялістычная рэспубліка ў Савецкім Саюзе.

Цяпер рука аб руку з працоўным беларусам працуе і працоўны яўрэй і працоўны паляк, літовец і працоўныя іншых нацыянальнасьцяй. У Савецкай Беларусі створаны дзесяткі і сотні яўрэйскіх, польскіх і інш. нацыянальных калгасаў. Цёмная, забітая, малапісьменная, лапцюжная царская акраіна, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, на чале з нашым любімым правадыром тав. Сталіным, стала цяпер рэспублікай суцэльнай пісьменнасьці з вялізарнай сеткай школ, ВНУ і ВТНУ.

Гэтыя посьпехі будаўніцтва сацыялізму ў БССР дасталіся ў жорсткай барацьбе, у барацьбе са сваей і замежнай буржуазіяй, у барацьбе з белапалякамі, бандытызмам, у барацьбе з кулацтвам і яго агентурай.

Гэтыя посьпехі зьяўляюцца рэзультатам найвялікшага напружаньня сіл рабочай клясы і працоўных мас і вялізарнай, шчырай, брацкай дапамогі, якую аказалі нам рабочыя і працоўныя Савецкага Саюзу.

На вопыце ўсяго нашага жыцьця мы штогадзінна пераконваемся, што толькі савецкая ўлада і камуністычная партыя маглі вызваліць нас ад уціску памешчыкаў і кулакоў і стварыць усе неабходныя ўмовы для яшчэ большага разьвіцьця нашай краіны. І мы, таварышы калгасьнікі, на нашым першым усебеларускім зьездзе калгасьнікаў-ударнікаў былі заняты аднэй думкай, як пасьпяховей, арганізаваней правесьці першую сяўбу ў першую весну другой пяцігодкі, як лепш засеяць нашы палі, як дабіцца больш высокага ўраджаю, каб сумленна выканаць у тэрмін і поўнасьцю ўсе свае абавязацельствы перад савецкай уладай, якая так многа сіл і клопатаў палажыла, каб наша мужыцкае жыцьцё зрабіць, нарэшце, чалавечым.

Нам, таварышы калгасьнікі, асабліва трэба над гэтымі пытаньнямі прызадумацца. Сёньня мы павінны сказаць адкрыта ўсім калгасьнікам Беларусі, няма чаго граха таіць, у мінулым годзе ва многіх калгасах мы працавалі кепска. Многа загубілі збожжа, бульбы, ільну. Нямала збожжа, ільну ў нас было раскрадзена кулакамі, зладзеямі, лодырамі. Многія нашы калгасы несвоечасова выканалі свае абавязацельствы перад дзяржавай.

Памятайце, таварышы калгасьнікі і працоўныя сяляне, што ў пачатку гэтага году Цэнтральны Камітэт нашай партыі і савецкі ўрад вымушаны былі занесьці цэлы рад раёнаў і вёсак Беларусі на чорную дошку за тое, што яны ня выканалі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

Нам, ударнікам-калгасьнікам, прыходзіцца чырванець, як гэта мы недагледзелі, што ў нашы рады пралезьлі кулацкія пасьледкі, разгромленае кулацкае атрэп'е—гэта контр-рэвалюцыйная сволач, гэтыя агенты разьбітай нацдэмаўшчыны і прышчэпаўшчыны, якія падбівалі калгасьнікаў супроць савецкай дзяржавы.

Дзе былі камуністы і камсамольцы? Дзе-ж былі ўдарнікі гэтых адсталых раёнаў? Трэба, таварышы калгасьнікі, проста прызнацца: працавалі ва многіх калгасах дрэнна, неахайна. Дзе-ні-дзе калгасьнікі паддаліся на ашуканства кулакоў, прыкрывалі іх і ішлі з імі за адно, утойваючы збожжа, лён, бульбу, ня выконваючы пляну збожжазагатовак, бульбазагатовак, асабліва ільназагатовак і ня ссыпаючы насеньня.

Мы, таварышы калгасьнікі, самі ня шукалі ворага там, дзе патрэбна было яго шукаць.

Меў рацыю наш любімы правадыр тав. Сталін, калі ён гаворыць: „Шукаюць клясавага ворага па-

за калгасамі, шукаюць яго ў выглядзе людзей са зьверскай фізіяноміяй, з вялізарнымі зубамі, з тоўстай шыяй, з абрэзам у руках, шукаюць кулака, якім мы яго ведаем з плякатаў, але такіх кулакоў даўно ўжо няма на паверхні зямлі. Цяперашнія кулакі і падкулачнікі, цяперашнія антысавецкія элементы ў вёсцы—гэта большай часьцю людзі „ціхія", салодзенькія, амаль „сьвятыя". Іх ня трэба шукаць далёка ад калгасаў. Яны сядзяць у самым калгасе і займаюць там пасады кладаўшчыкоў калгасаў, рахункаводаў, сакратароў" і г. д.

Гэтыя антысавецкія элемэнты дый розныя рвачы, прыхлябальнікі і дармаеды карыстаюцца тым, што паасобныя калгасьнікі адносяцца да калгаснага дабра без замілаваньня, без ахвоты, спусьціўшы рукавы, карыстаюцца нашай бясьпэчнасьцю і адсутнасьцю нашай пільнасьці, шкодзяць нам, псуюць, паскудзяць, крадуць і расьцягваюць калгасную маёмасьць, наносячы вялізарныя страты і інтарэсам нашай дзяржавы і інтарэсам чэсных, добрасумленных калгасьнікаў.

Так далей, таварышы, працаваць нельга. Забываць аб неабходнасьці рэвалюцыйнай пільнасьці, забываць аб барацьбе з рвачамі, прыхлябальнікамі, лодырамі—значыць, граць на руку кулачч у.

Вясна, таварышы, ля парогу. Гэта вясна павінна даць карэнны пералом ў жыцьці і рабоце нашых калгасаў.

Веснавая сяўба гэтага году павінна закласьці цьвёрды фундамант для таго, каб узьняць на значна большую вышыню даходнасьць як калгасу, так і калгасьнікаў, **каб зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі.**

Нам трэба паставіць работу ў калгасе, каб „дзяржаве была карысьць і жыцьцё калгасьнікаў бязупынна паляпшалася".

Для гэтага ня трэба эксплёатаваць і крыўдзіць сваіх суседзяў, як гэты было пры аднаасобнай гаспадарцы. Для гэтага патрабуецца толькі, як гаварыў наш любімы правадыр тав. Сталін, адно, каб мы, калгасьнікі, працавалі сумленна, павышалі ўраджайнасьць і прадукцыйнасьць жывёлагадоўлі, дзялілі калгасныя даходы па працы, бераглі калгаснае дабро—трактары, машыны, бераглі коняй, выконвалі заданьні рабоча-сялянскай дзяржавы. Для гэтага трэба ўмацоўваць калгасы, навесьці там узорны парадак, бязьлітасна вышыбаць адтуль пралезшых кулакоў, падкулачнікаў, лодыраў і разгільдзяяў.

Вось праграма дзеяньняў калгасьнікаў, якая забясьпечвае магчымасьць усім нам падняцца „да ўзроўню заможных, якія карыстаюцца багацьцем прадуктаў і вядуць у поўнай меры культурнае жыцьцё" (**Сталін**).

Ад імя ўсіх калгасаў і калгасьнікаў БССР мы бярэм на сябе абавязацельства выканаць ўсе указаньні Ўсесаюзнага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў. У рашучай барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, за ўвядзеньне агратэхнікі, за высокі ўраджай, за поўнае выкананьне ўсіх абавязацельстваў перад савецкай дзяржавай, за жалезную дысцыпліну вытворчасьці, у няпрымірымай барацьбе з кулакамі, лодырамі, дармаедамі і прыхлябальнікамі, мы абавязваемся дабіцца такіх посьпехаў, каб у бліжэйшыя-ж ў гады сельская гаспадарка Беларусі была сапраўды ўзорнай, каб калгасы ўмацаваліся арганізацыйна, каб з іх былі вышыблены шкодніцкія элемэнты, каб усе калгасы былі сапраўды бальшавіцкімі.

**Веснавы бой — наш галоўны бой і мы яго выйграем ва што-б там ня стала!**

# Брыгаду—у цэнтр увагі

У пастанове ЦК УсеКП(б) аб чаргавых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў у адным з пунктаў гаворыцца:

**„Важнейшым зьвяном у арганізацыі працы ў калгасах павінна стаць брыгада".**

Сапраўды, асноўным зьвяном гаспадарчай дзейнасьці, зьвяном, якое забясьпечвае атрыманьне даходаў у кожным калгасе, зьяўляецца брыгада.

Зараз брыгада павінна стаць цэнтрам ня толькі вытворча-гаспадарчай дзейнасьці, але і цэнтрам масавай палітыка-асьветнай работы.

У брыгадзе кожны калгасьнік павінен навучыцца ўладаць калектыўнымі навыкамі ў рабоце, у брыгадзе калгасьнік успрымае сацыялістычныя мэтады працы і адносіны да даручаных сродкаў вытворчасьці, успрымае працоўную дысцыпліну, заснаваную на калектыўнай творчасьці і добрыя адносіны да часу, які затрачваецца на работу.

Такія патрабаваньні, прад'яўляемыя да брыгады, ускладаюць вялікую адказнасьць на кіраўнікоў калгасаў за фармаваньне брыгад і асабліва за падбор складу брыгадзіраў. Добра падабраць брыгадзіраў—значыць забясьпечыць палітычнае выхаваньне брыгады, выкананьне плянаў.

Брыгадзір павінен ведаць складаныя часткі той галіны гаспадаркі, на якую пастаўлена брыгада, умець ня толькі кіраваць, але ў патрэбны момант аказаць практычную дапамогу радавым членам. Ён павінен быць аўтарытэтным сярод калгаснай масы, рашучым, сьмелым у адносіне прыяўленьня ініцыятывы, дысцыплінаваным, патрабавальным да сябе і падначаленых. Брыгадзіры павінны вылучацца з асяродку лепшых ударнікаў, з людзей адданых савецкай уладзе і справе калгаснага будаўніцтва, умеючых разьбірацца ў палітыцы савецкай улады на вёсцы.

Акрамя кіраўніцтва гаспадарчай дзейнасьцю, брыгадзір зьяўляецца адказным таксама за перавыхаваньне калгасьнікаў, якія знаходзяцца ў яго брыгадзе. Брыгадзір павінен быць, бязумоўна, пісьменным.

Забясьпечыць калгасы неабходнымі кадрамі брыгадзіраў, якія адказваюць пералічаным патрабаваньням не такая простая задача, як многім можа паказацца. Гэта работа патрабуе сур'ёзнага падыходу, вывучэньня кожнага калгасьніка ў паасобку.

Такія-ж патрабаваньні да падбору брыгадзіраў павінны прад'яўляцца і па лініі нашай сыстэмы (паляўнічай).

Ня менш важным пытаньнем зьяўляецца фармаваньне брыгад—гэтых пярвічных вытворчых ячэек, ад якіх цалкам залежыць пасьпяховасьць дзейнасьці калгаса. Па гэтаму пытаньню ёсьць цэлы рад вычарпальных пастаноў цэнтральных дырэктыўных арганізацый. Мы застановімся на тэхніцы практычнага фармаваньня брыгад у нашай сыстэме.

Як правіла, брыгады будуюцца па вытворчаму прынцыпу (у нашай сыстэме могуць быць паляўнічыя, рыбалоўныя, саматужныя, сельскагаспадарчыя і г. д.) з сталым складам калгасьнікаў на ўвесь час работы, але ня менш чым на 6 месяцаў.

У зьвязку са стракатасьцю промыслаў нашай сыстэмы (аб'екты і спосабы паляваньня рыбалоўства, разнастайнасьці саматужных промыслаў), тэрытарыяльнай раскіданасьці прамысловых угодзьдзяў дапускаецца з сталых брыгад арганізоўваць групы, зьвеньні, строга спэцыялізуючы іх на пэўным промысле, замацоўваючы за тэрытарыяльным вучасткам.

Для абслугоўваньня сэзонных работ (збор грыбоў, ягад, арэха і г. д.) дапускаецца фармаваньне сэзонных брыгад, але абавязкова па строга вытворчаму прынцыпу. Калі калгас (колькасьць паляўнічых) колькасна малы, дапускаецца арганізацыя аднэй брыгады па падсобных промыслах, якая разьбіваецца на групы па роду промыслаў.

Разьмер брыгад павінен адпавядаць аб'ёму даваемай работы, выходзячы з прынятых норм выпрацоўкі, тэрміну выкананьня работы, разьмеру абслугоўваемага вучастка, колькасьці выдзеленай цягавай сілы і сродкаў вытворчасьці. Акрамя ўсяго, разьмер брыгады і тэрытарыяльнае разьмяшчэньне павінны забясьпечыць магчымасьць сыстэматычнага кантролю і бесьперабойнасьць кіраўніцтва з боку брыгадзіраў.

Брыгада павінна быць сфармавана так, каб ня было ніводнага лішняга чалавека. Кожны калгасьнік, кожны паляўнічы, прызначаны ў брыгаду, яшчэ да работы павінен ведаць сваё месца, свой вучастак, пастаўленую задачу як для брыгады цалкам, так і пэрсанальна. Таму, фармаваць сталую брыгаду належыць не па прызнаках найбольшай патрэбнасьці ў рабочай сіле ў даны момант, што выклікаецца іншы раз сэзоннасьцю, а выходзячы з сумы заданьняў вытворчага пляну, з рахунку сярэдняй нормы выпрацоўкі.

Пры камплектаваньні брыгад належыць выходзіць з адзінага прынцыпу — правільнай расстаноўкі сіл, якая-б забясьпечвала максымальную нагрузку і давала найвышэйшы вытворчы эфэкт і найбольшую даходнасьць.

Арганізацыю брыгад павінна папераджаць:

1. Разьбіўка ўсіх паляўнічых па спэцыяльнасьцях.

2. Асабліва глыбока-прадуманая, дакладная расстаноўка партыйцаў, камсамольцаў, ударнікаў і іншага актыву, якія павінны быць ядром брыгады, забясьпечыць вытворчую моц і даць брыгадзе палітычны рост. Пры наліччы некалькіх спэцыяльнасьцяй, паляўнічы застаецца ў тэй брыгадзе, дзе работа яго дае найбольшыя вытворчыя вынікі.

3. Вызначэньне аб'ему работ, якія прадугледжаны вытворчым плянам, і тэрытарыяльнае разьмяшчэньне вытворчых вучасткаў, угодзьдзяў.

4. Устанаўленьне забясьпечанасьці брыгад сродкамі вытворчасьці і цягавай сілай, калі апошняя патрэбна па роду промысла.

Па афармленьні брыгад вытворчасьці, разьмеркаваньні і замацаваньні сродак вытворчасьці ўсё гэта перадаецца пад адказнасьць брыгадзіраў.

## Унутрыбрыгаднае кіраўніцтва

У пастаянных і сэзонных брыгадах усе паляўнічыя падначальваюцца непасрэдна брыгадзіру і ўсе загады апошняга зьяўляюцца для брыгады абавязковымі: калі ў моц тэрытарыяльнай раскіданасьці промыслаў патрабуецца брыгаду разьбіць на групы, гэта фармаваньне вытвараецца распараджэньнем брыгадзіра. На чале ставяцца групаводы і старэйшыя зьвеньняў, якія выдзяляюцца брыгадзірам з ліку паляўнічых.

Групаводы і старэйшыя зьвяна ў адносіне да выдзеленых у іх распараджэньне людзей карыстаюцца правамі брыгадзіраў, а самі непасрэдна падначальваюцца асноўнаму брыгадзіру. Брыгадзір павінен выбірацца з ліку лепшых паляўнічых па ўзгадненьні з партыйнымі і савецкімі арганізацыямі і зацьвярджацца райпраўленьнем паляўнічых.

Брыгадзіру даецца поўнае права распараджацца ўнутры свае брыгады, у залежнасьці ад абставін і абстаноўкі (перагрупіроўка людзей, сродак вытворчасьці, правядзеньне іншых дадатковых мераприемстваў), калі яны не супярэчаць агульным заданьням праўленьня і накіроўваюцца з мэтаю атрыманьня найвышэйшага вытворчага эфэкту.

У мэтах стварэньня і падтрымкі аўтарытэту брыгадзіраў, а таксама ўнядрэньня дысцыпліны ўнутры брыгады—катэгарычна забараняецца ўмешвацца ў распараджэньне брыгадзіраў, калі яны ня супроцьзаконны і ня супярэчаць перад брыгадай. Кожны брыгадзір зьяўляецца адказным за свае распараджэньні ў поўнай меры. Трэба пазьбегнуць праўленьню дробнай апекі над дзеяньнямі брыгадзіра і лішняй непатрэбнай валтузяніны.

Не адмаўляючыся ад кіраўніцтва брыгадай, праўленьню райтаварыстваў патрэбна ўзмацніць кантроль за выкананьнем вытворчых плянаў на ўсіх вучастках работы, але гэты кантроль павінен насіць сыстэматычны характар з тым, каб брыгадзіры раней ведалі, калі і што ад іх патрабуецца, і змаглі своячасова падрыхтавацца.

Па ўнутрыбрыгаднаму кіраўніцтву ў абавязкі брыгадзіра ўваходзіць:

а) абгаварэньне заданьняў на брыгаднай вытворчай нарадзе, кіраўніцтва прапрацоўкай пляна па ўсіх паказчыках;

б) практычная расстаноўка сіл унутры брыгады з вучотам вопыта, кваліфікацыі і здольнасьці кожнага паляўнічага;

в) поўнае і правільнае скарыстоўваньне сродак вытворчасьці, патрэбных для промыслу, з фактычным адказным замацаваньнем за кожным паляўнічым;

г) арганізацыя сацспаборніцтва і ўдарніцтва, барацьба з рэшткамі кулацкага ўплыву — расхлябанасьцю, нядысцыплінаванасьцю і г. д.;

д) поўная адказнасьць за становішча належачай брыгадзе маемасьці; за выкананьне работы кожнага зьвяна, групы і брыгады цалкам; за своячасовы выхад на промысел усіх паляўнічых у брыгадзе; за своячасовае і бесьперабойнае забесьпячэньне брыгады агнябоеприладамі; за пастаноўку масавай і культурна-асьветнай работы і інш.

Праз брыгадзіра праўленьне райтаварыства трымае бесьперапынную сувязь з брыгадай; брыгадзір сыстэматычна робіць справаздачу аб становішчы і дзейнасьці яго брыгады.

Гэтыя мераприемствы зьяўляюцца толькі прыблізнай намёткай, першымі крокамі ў галіне замацаваньня работы вытворча-прамысловых паляўнічых брыгад. У сапраўднасьці можа ўзьнікнуць яшчэ шмат іншых штодзенных пытаньняў, якія можна вырашыць толькі на аснове практыкі, якой мы і жадаем абменьвацца на старонках нашай часопісі.

Р. С.

# Пастанова

## Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю СССР пры СНК БССР

### Аб арганізацыі веснавых загатовак пушмехсыравіны ў 1933 годзе

Загатоўка веснавых відаў пушмехсыравіны набывае ў бягучым годзе асабліва народна-гаспадарчае значэньне і павінна праводзіцца пад лёзунгам барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці савецкіх палёў і ўтварэньня дадатковай сыравіннай базы для савецкай мехаапрацоўчай прамысловасьці і экспарту.

У адпаведнасьці з гэтым і для забесьпячэньня выкананьня пляну загатовак веснавой сыравіны і правядзеньня неабходных для гэтага мерапрыемстваў, упаўнаважаны НКЗГ па БССР пастанаўляе:

#### 1. Мэтады загатовак

1. Захаваць сыстэму гаспадарчых дагавароў, як асноўны мэтад правядзеньня загатовак веснавых відаў пушмехсыравіны. Дагавары павінны захоўваць інтарэсы абодвых бакоў і праводзіцца на падставе шырокай масавай работы, мабілізуючы грамадзкія сілы на правільную арганізацыю здабычы, апрацоўкі сыравіны, у мэтах павялічэньня яе таварнасьці і павышэньня якасьці прадукцыі.

2. Гаспадарчыя дагавары заключаюцца арганізацыямі, дапушчанымі да загатоўкі пушмехсыравіны з калгасамі, саўгасамі, аднаасобнымі бядняцка-серадняцкімі лавецкімі брыгадамі, паляўнічымі і школамі на ўвесь сэзон загатовак веснавых і летніх відаў пушмехсыравіны (красавік—кастрычнік) і павінны забясьпечыць 100 проц. загатпляну.

Устанавіць канчатковы тэрмін заключэньня гаспадарчых дагавароў 20-га красавіка 1933 г.

> УВАГА. З кулацка-заможнымі гаспадаркамі дагавары не заключаюцца і апошнія не авансуюцца і ня стымулююцца прамтаварамі, а здаюць сваю прадукцыю ў парадку цьвёрдага заданьня, накладзенага мясцовымі саветамі ва ўстаноўленым парадку.

3. Абавязаць Белзагатпушніну, Белкахотсаюз, Белкаапсаюз сыстэматычна праводзіць праверку заключэньня і выкананьня гаспадарчых дагавароў абодвых бакоў, а правядзеньне суцэльнай праверкі ўстанавіць кожнага 10-га наступнага месяца.

4. У мэтах забесьпячэньня сваячасовага кантролю за ходам гаспадарчай дагаворнай кампаніі, абавязаць усіх раённых загатавіцеляў прадстаўляць сваім цэнтрам штодэкадныя зьвесткі аб ходзе заключэньня дагавароў, а цэнтральныя заготарганізацыі прадстаўляюць упаўнаважанаму НКЗГ па зацьверджанай форме і ва ўстаноўлены тэрмін.

5. Раённым экспартным нарадам пры РВК вытварыць прымацаваньне сельсаветаў да загатоўчых арганізацый з улікам плянавай удзельнай вагі, устаноўленай у загатоўках пушмехсыравіны у II квартале 1933 г. для кожнай загатоўчай арганізацыі, наяўнасьці сыравіннай базы ў сельсавеце і моцы апарату загатавіцеля. Катэгарычна забараніць загатоўчым арганізацыям вядзеньне загатовак і заключэньне гаспадарчых дагавароў у сельсаветах, прымацаваных да іншых арганізацый.

6. Улічваючы, што скурка крата пасьля сходу сьнегу (з красавіка і да 15 мая) зьяўляецца найбольш каштоўнай, абавязаць загатарганізацыі правесьці масавы адлоў і ўсяляк стымуляваць яго загатоўку, асабліва ў гэты тэрмін, а таксама зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне якасных паказчыкаў сыравіны, правільнасьць зьёмкі, кансэрвіроўкі, сушкі, хаваньня, упакоўкі і г. д.

#### II. Работа загатавіцеляў пушмехсыравіны ў калгасах

1. Для ўмацаваньня арганізацыйна-апэрацыйна-тэхнічнай сувязі асноўных пушнамехавых загатавіцеляў з калгасамі прапанаваць загатавіцелям ў адпаведнасьці з пастановамі пленуму ЦК і ЦКК Усе КП(б) і ЦК ЦКК КП(б)Б аб арганізацыйна-гаспадарчым ўмацаваньні калгасаў, а таксама для пашырэньня пушна-мехавой базы:

а) стварыць праз праўленьне калгасаў лавецкія брыгады і арганізаваць сетку зборшчыкаў у калгасах, з вылучэньнем з калгаснага актыву сталага брыгадзіра для арганізацыі промыслу лову, зборкі і сталай сувязі калгаса з загатоўчымі арганізацыямі;

б) улічваючы супадзеньне найбольш каштоўнага пэрыяду веснавых загатовак з разгортваньнем работ па веснавой сяўбе, якая адцягне галоўную масу дарослага насельніцтва, абавязаць ўсіх загатавіцеляў асноўны ўпор зрабіць на вярбоўку і ўцягненьне ў практычную работу па выкананьню дагавароў на калгасную і бядняцка-серадняцкую моладзь, школы, піянэрскія і камсамольскія арганізацыі;

в) правесьці арганізацыйна-масавую работу ў калгасах і тэхнічна-апэрацыйны інструктаж апошніх па тэхніцы лову, зьемцы скурак з тушак і сваячасовому і адпаведнаму правядзеньню іх у ліквіднае становішча.

г) забясьпечыць сваячасовы выхад паляўнічых на промысел і зборшчыкаў—на зборку пушмехсыравіны і арганізацыю поўнай здачы здабытай прадукцыі ў адпаведнасьці з заключанымі гаспадарчымі дагаварамі;

д) сваячасова забясьпечыць лаўцоў прыладамі лову.

2. Канстатаваць зусім недастатковую ўвагу з боку загатавіцеляў рабоце ў саўгасным сэктары, пры наяўнасьці ў апошнім значных рэсурсаў вясновых відаў пушмехсыравіны. Абавязаць загатарганізацыі пушмехсыравіны прыступіць да распрацоўкі на тэрыторыі саўгасаў вясновага промыслу і зборкі пушнамехавой сыравіны, заключыўшы з апошнім гаспадарчыя дагавары, якія прадугледжваюць арганізацыю спэцыяльнай лавецкай брыгады і зборшчыкаў.

#### III. Работа ў неабагуленым сэктары

1. Абавязаць загатарганізацыі правесьці масавую адпаведную работу па фарсаваньні работы аб'яднаньня беднякоў і серадняко-аднаасобнікаў у спэцыяльныя лавецкія брыгады, уняд-раючы калектыўныя мэтады працы і ўсяляк стымуляваць работу брыгад.

2. Загатарганізацыям зьвярнуць асаблівую ўвагу на выкананьне гаспадарчых дагавароў аднаасобнікамі, не допускаючы асяданьне здабытай імі сыравіны, узмацняючы падворную зборку і штадзённы кантроль за ходам работы.

#### IV. Плян загатовак веснавых відаў пушмехсыравіны

1. Зацьвердзіць плян загатовак на II-гі квартал 1933 г. па БССР на пушніну ў суме 274 тыс. руб., у тым ліку крата ў колькасьці 400 тыс. шт., вадзянога пацука—15 тыс. штук, хамяка—8 тыс. штук; па мехсыравіне—на суму 175 тыс. руб., у тым ліку: жэрабка ў колькасьці 14 тыс. штук і мярлушкі—32 тыс. штук.

2. Устанавіць наступную ўдзельную вагу загатавіцеляў на II-гі квартал 1933 г.

| | Пушніна | Мехсыравіна |
|---|---|---|
| Белпушніна. . . . . | 40 проц. | 55 проц. |
| Белкахотсаюз . . . . | 36 „ | 20 „ |
| Белкаапсаюз . . . . | 24 „ | 25 „ |

#### V. Аб стымулюючых фондах прамтавараў ў загатоўках веснавых відаў пушмехсыравіны

1. Устанавіць наступную норму выдачы стымулюючых прамтавараў у загатоўках вяснавых відаў пушмехсыравіны з сумы каштоўнасьці здаваемай сыравіны:

| | Прамт. | Граш. |
|---|---|---|
| Пры кантрактацыі з калгасамі, школамі і іншымі грамадзкімі арганізацыямі. . . . | 60 проц. | 40 проц. |
| Пры кантрактацыі з групамі, брыгадамі паляўнічых і арцелямі . . . . . . . . | 50 „ | 50 „ |
| Пры кантрактацыі з аднаасобнікамі . . | 40 „ | 60 „ |
| Пры некантрактав. (закупка з рынку). . | 35 „ | 65 „ |

2. Дазволіць асноўным загатавіцелям пры падпісаньні гаспадарчых дагавароў выдаваць авансы у наступных разьмерах: калгаснаму сэктару—30 проц., аднаасобнаму сэктару—20 проц. з сумы дагавароў. Паказаныя авансы выдаюцца грашыма, прамтаварамі і прыладамі лову ў наступных проц. адносінах:

| | Прамт. і прылады лову | Грашыма |
|---|---|---|
| Калгасам, школам і інш. грам. арг. . . | 60 проц. | 40 проц. |
| Групам, брыгадам паляўнічых і арцеляй . | 50 „ | 50 „ |
| Аднаасобнікам . . . . . . . . . . | 40 „ | 60 „ |

3. Прапанаваць Белзаготпушніне, Белкаапсаюзу і Белкахотсаюзу сваячасова забясьпечыць свае пункты адпаведным асартымэнтным прамфондам і прыладамі лову для стымуляваньня загатовак веснавых відаў пушмехсыравіны.

4. Пушмехсыравіна, якая прымаецца ад дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый (ЗРК, саўгасаў, трусаводных фэрмаў і інш. арганізацый) не павінна атаварвацца прамыслова-спажывецкімі таварамі.

5. Прапанаваць заготарганізацыям выдаткаваньне прамыслова-спажывецкіх тавараў вытварыць выключна па прамому прызначэньню, сурова прытрымліваючыся атаварваньня па вышэйпаказаных нормах, праводзячы рашучую барацьбу з кожным фактам разбазарваньня прамыслова-спажывецкіх тавараў, прыцягваючы вінаватых да адказнасьці.

#### VI. Агульныя мерапрыемствы:

1. Абавязаць заготарганізацыі максымальна скарыстаць краталоўкі, якія маюцца ў раёнах і лічыць неабходным дадатковы выраб на мясцох у БССР, скарыстоўваючы ўсе маючыяся рэсурсы (адкіды ад мэталюргічнай прамысловасьці), а таксама забясьпечыць адпаведнай колькасьцю плякатаў, інструкцый па здабычы і загатоўцы веснавых відаў пушмехсыравіны.

# АБ ПРЫПІСЦЫ ПАЛЯЎНІЧЫХ ГАСПАДАРАК

*(У парадку прапановы)*

Пастановай уроду аб разьвіцьці паляўнічай гаспадаркі вызначаны шляхі далейшага будаўніцтва яе. Але ня ўсе нашы райтаварыствы ўразумелі важнасьць гэтага пытаньня. Гэта відаць хаця-б з таго, што на працягу ўсяго 1932 г. мы ня здолелі выканаць пляну па ахотэканамічнаму абсьледваньню. Мы яго выканалі толькі на 49,5 проц. Дрэнна абстаяла справа і з прысылкай зьвестак райтаварыствамі па утворанаму ахотэканамічнаму абсьледваньню. А аб асваеньні гэтых угодзьдзяў і рэчы ня было. Ды і сам Белкахотсаюз вельмі мала ўдзеляў увагі гэтаму пытаньню. Нават сэктар паляўнічай гаспадаркі Белкахотсаюза ня быў укамплектован адпаведнымі работнікамі.

А гэта работа патрабуе ад нас сур'ёзнай увагі да сябе. Мы павінны арганізаваць яе, вытруціць бюрократычныя адносіны райтавариствам да справы першапачатковай работы—ахотэканамічнага абсьледваньня і рушыць наперад арганізацыю паляўнічай гаспадаркі—асваеньне паляўнічых угодзьдзяў. Работа па ахотэканамічнаму абсьледваньню і асваеньню (прыпісцы) паляўнічых ўгодзьдзяў павінна стаць на ўзроўні загатоўчай работы.

Зараз гэту работу Белкахотсаюз праводзіць з папярэднім ахотэканамічным абсьледваньнем, на аснове матар'ялаў якога выдзеляецца біолёгічна абасобленае паляўнічае ўгодзьдзе, як асобная паляўніча-гаспадарчая адзінка. На гэтай тэрыторыі павінны быць разгорнуты ахотупарадкаваўчыя работы, якія ідуць па двух напрамках: першы—вывучэньне зоогеаграфічных і біолёгічных фактараў для вылучэньня эксплёатацыйных частак, вылучэньня заказьнікаў, колькасны і якасны ўлікі і г. д.; другое, гэта на аснове гэтых вывучэньняў—разьбіўка тэрыторыі на асобныя паляўніча-гаспадарчыя адзінкі (з устаноўкай на раён), якія ў сваю чаргу, разьбіваюць на асобныя вучасткі, да апошніх прыпісваюцца паляўнічыя брыгады, непасрэдна з імі зьвязаныя.

Такім парадкам будуецца работа Белкахотсаюза па прыпісцы паляўнічых гаспадарак у сучасны момант. Гэты мэтад вельмі складаны і патрабуе значных папярэдніх работ да правядзеньня яго ў жыцьцё.

З практыкі работы, што ёсьць на сёнешні дзень у другіх рэспубліках, усплывае на паверхню другі мэтад—мэтад асваеньня паляўнічых угодзьдзяў, разьбіўшы яго на два асноўныя моманты—асваеньне паляўнічых угодзьдзяў для мэт промыслу і асваеньне паляўнічых угодзьдзяў для арганізацыі правільных паляўнічых гаспадарак.

На тэрыторыі БССР маецца вялікая колькасьць самых разнастайных паляўнічых угодзьдзяў, якія маюць тое ці іншае паляўніча-прамысловае значэньне. Вось гэтыя паляўнічыя ўгодзьдзі і трэба асвоіць, трэба паставіць цалкам на службу сацыялістычнага будаўніцтва. Яны павінны даць краіне пушную і іншую лясную прадукцыю, павялічыць экспарт, даць краіне прадукты харчаваньня і танную мехсыравіну.

Выходзячы з гэтага, трэба работу па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі так разгарнуць, каб ніводзін вучастак паляўнічых угодзьдзяў не застаўся не апрамыслованым. У бягучым годзе нам трэба ахапіць хаця-б элемэнтарнымі мерапрыемствамі ўсе паляўнічыя ўгодзьдзі, якія могуць служыць паказанай мэце, хоць яны да гэтага часу і ня былі ахоплены ахотэканамічным абсьледваньнем.

На гэтых паляўнічых угодзьдзях павінны быць арганізаваны асобныя прыпісныя вучасткі, да якіх і прыпісваюцца нізавыя зьвеньні нашай сыстэмы (брыгады), непасрэдна з імі зьвязаныя (г. зн., якія вядуць на іх у сучасны момант паляўнічы промысел). У гэтых прыпісных вучастках праводзяцца першапачатковыя паляўніча-гаспадарчыя мерапрыемствы, якія зводзяцца да асноўнай мэты—даць краіне поўнакаштоўную прадукцыю (пушніну), іншымі словамі—захаваньне устаноўленых правіл аб тэрмінах і спосабах паляваньня, зьніжэньне проценту нявыходнай пушніны і павышэньне яе якасьці, калектыўны промысел, ахова ад пажараў, барацьба з драпежнікамі. Для гэтых прыпісных вучасткаў павінны складацца пляны магчымай іх эксплёатацыі і неабходныя мерапрыемствы, пры чым для лепшага іх абслугоўваньня неабходна ствараць кусты пад кіраўніцтвам тэхніка па паляўніцтву.

Работу па выяўленьні гэтых асобных паляўнічых угодзьдзяў праводзяць райтаварыствы паляўнічых, якая зводзіцца ў асноўным да наступных момантаў: колькасьць здабываемай паляўнічай прадукцыі, прымерная плошча, колькасьць неабходнай рабочай сілы (паляўнічых) і якія вытворчыя аб'яднаньні зацікаўлены ў гэтых паляўнічых угодзьдзях.

Справа цэнтральных рэгулюючых арганізацый пайсьці насустрач і значна спрасьціць існуючую тэхніку афармленьня прыпіскі гэтых вучасткаў. Задача нашых нізавых зьвеньняў сыстэмы (брыгады, райтаварыства) узьняць ініцыятыву мас на хутчэйшае правядзеньне ўпарадкаваньня з прыпіскай паляўнічых угодзьдзяў і практыкай работы абменьвацца на старонках нашай часопісі „Паляўнічы Беларусі".

**Р. К.**



# УВАГУ ШТУЧНАМУ РЫБАВОДЗТВУ

Ня гледзячы на тое, што наш СССР на сваёй тэрыторыі мае вялікую колькасьць досыць значных па сваіх разьмерах рэк, вазёр і яшчэ большую колькасьць розных праточных і непраточных прудоў, ня гледзячы на тое, што значная частка нашых водазбораў замярзае на нязначны параўнаўча час,— ўсё-ж пытаньне рыбаводзтва зьяўляецца амаль новай праблемай ва ўмовах СССР.

У дарэвалюцыйны час пытаньнем рыбаводзтва амаль ніхто не займаўся, за выключэньнем некалькіх навукова-дасьледчых інстытутаў, якія займаліся справай штучнага разьвядзеньня найбольш каштоўных рыбных парод, але практычнага прыстасаваньня амаль ня мелі. Вадазборы ў большай сваей частцы належалі пераважна памешчыкам, ці знаходзіліся на так званых манастырскіх землях і выкарыстоўваліся імі для іхніх асабістых патрэб. Доступ да іх шырокім масам працоўнага сялянства і рабочым быў зачынены.

Зараз справа з праблемай рыбаводзтва знаходзіцца ў зусім іншым становішчы. Савецкая ўлада яшчэ першыя гады свайго існаваньня зьвярнула вялікую ўвагу на пытаньне штучнага рыбаводзтва і паставіла сабе за мэту шырока разгарнуць справу ў напрамку выкарыстаньня нашых шматлікіх вазёр і прудоў.

Але трэба сказаць, што, ня гледзячы на тое, што ў справе штучнага рыбаводзтва мы маем на сёнешні дзень ужо вялікія дасягненьні, што зараз створана і працуюць шмат розных навукова-дасьледчых інстытутаў, станцый, якія займаюцца справай штучнага разьвядзеньня розных парод рыб, што рыбаводнымі заводамі кожны год выпускаецца цэлымі міліярдамі малькоў, што тысячы нашых вазёр і прудоў ужо асвоены і плянава выкарыстоўваюцца,— усэ-ж трэба адзначыць, што ўсё гата яшчэ ёсьць нязначная частка таго, што мы можам стварыць, дзякуючы нашым прыродным багацьцям, дзякуючы тым магчымасьцям, якія закладзены самой прыродай.

Маючы на ўвазе тое, што ў нас на Беларусі маюцца каштоўнейшыя ўмовы для рыбаводзтва і што па гэтаму пытаньню амаль адсутнічае неабходная літаратура, што адпаведныя часопісі гэтага пытаньня таксама амаль не асьвятлялі, я адважыўся ўзяць на сябе сьмеласьць у кароткіх рысах даць некаторы напрамак у працы па пытаньню штучнага рыбаводзтва тым, хто сапраўды зацікавіцца гэтай справай і захоча ёю заняцца.

Іменна падкрэсьліваю напрамак, а не вычарпальнае інструктаваньне, бо апошняе патрабуе спэцыяльных ведаў, адпаведнай навуковай падрыхтаванасьці.

Найлепшымі аб'ектамі для рыбаводнай гаспадаркі зьяўляюцца **карп і форэль.** Застановімся на першым, маючы на ўвазе тое, што карпы зьяўляюцца досыць выпрабаваным аб'ектам для прудовага рыбаводзтва, даючым значную эфэктыўнасьць у гаспадарцы, з аднаго боку, і што нашы пруды ў сэнсе іх грунту, чыстаты вады зьяўляюцца іменна падыходзячымі для культывіраваньня карпаў, з другога боку.

Па сваей будове прудовыя гаспадаркі могуць быць двух відаў: 1) поўная гаспадарка, калі яна займаецца гадоўляй рыбы ад пачатку яе запладненьня і да поўнага яе ўзросту і 2) няпоўная гаспадарка, калі яна атрымоўвае ўжо гатовых малькоў ці гадаваных карпаў і займаецца выключна толькі іх гадоўляй. У залежнасьці ад тэрміна гадоўлі гаспадарка можа быць аднагадовай, двухгадовай і трохгадовай. З тае прычыны, што карпы вельмі хутка растуць і двухгадавалы карп ужо мае 0,5 кгр і болей вагі, то поўная гаспадарка і можа быць двохгадовай.

Раіцца для поўнай карпавай гаспадаркі мець некалькі прудоў featured рознага прызначэньня: 1) нераставы, у якім адбываецца нераст рыбы і трымаюцца на працягу 1 месяца маладыя рыбкі, 2) пруд для гадоўлі, ляпей 2, адзін для гадавалых, другі для двухгадавалых і 3) зімавальны, дзе зімуе рыба, якая засталася ў гаспадарцы на зіму.

Найбольшая плошча павінна адводзіцца для тых прудоў, дзе мяркуецца гадаваць рыбу, найменшыя— нерастовыя пруды, прыблізна процантныя суадносіны паміж імі павінны быць такія: 1:50:5.

Самы разьмер пруда не павінен быць вялікім, ляпей іх мець некалькі. Глыбіня не павінна быць вялікай, але ў той-жа час пруд не павінен быць і зусім мелкім, бо ў такім выпадку ён хутка зарастае. Добрымі ў сэнсе глыбіні лічацца тыя пруды, якія маюць у сябе вучасткі рознай глыбіні—ад 20-30 *см* да 2 *м.* Найбольшую глыбіню павінны мець зімавальныя пруды. Што тычыцца формы, то апошняя для летніх прудоў асобнай ролі не адыгрывае, для зімавальных-жа лепшай формай лічыцца прастакутная; лепш адбываецца абмен паветра.

Немалаважную ролю ў прадукцыйнасьці прудоў адыгрывае і глеба. Чым лепшая глеба, тым вышэй прадукцыйнасьць рыбнай гаспадаркі. Па вылічэньню некаторых рыбаводаў спэцыялістаў у нас на Беларусі лепшымі, у сэнсе прадукцыйнасьці, прудамі зьяўляюцца пруды на грудовых сенажацях і найбольш нізкімі па прадукцыйнасьці тыя, якія заложаны на торфяніках. З прычыны таго, што рыба корміцца амаль выключна прыроднай спажывай, расьліннасьцю, то зразумела, што ў летніх гадавальных прудох нельга яе зьнішчаць. Што тычыцца зімавальных прудоў, то іх можна проста выкопваць.

Пруд павінен быць праточным. Пры чым вельмі важна, каб кожны пруд меў свой асобны спуск вады. Калі гэтага зрабіць нельга, то можна абмяжавацца спускным зімавальным прудом, бо летнія пруды ўсё-ж да некаторай ступені могуць абнаўляць ваду за кошт звычайных ападкаў.

Калі прыняць пад увагу вышэйпададзеныя заўвагі адносна таго, якім павінен быць рыбаводны пруд, то трэба зрабіць вывад, што большасьць тых прудоў, якія мы сустракаем у калгасах і саўгасах, патрабуюць нязначных фізычных сіл і яшчэ менш грашовых сродкаў для ператварэньня іх у адпаведныя, досыць рэнтабельныя рыбаводныя гаспадаркі. Гэтыя мерапрыемствы, галоўным чынам, зводзяцца да наступнага:

У першую чаргу неабходна ачысьціць пруд ад розных карчоў, дрэў, каменьняў, якімі вельмі часта закіданы нашы пруды і якія будуць перашкаджаць у свой час пры так званым аблове пруда, у такіх прудах застаецца часамі неаблоўленай шмат рыбы,

якая зімою можа прапасьці. У другую чаргу неабходна вычарпаць усе магчымасьці для таго, каб пруд зрабіць вадаспускным; гэта, як ужо зазначалася, неабходна для аднаўленьня вады, што значна павышае прадукцыйнасьць пруда і, па-другое, што зноў такі ў такіх прудох ёсьць поўная магчымасьць увосень, напрыклад, спусьціўшы ваду, выбраць усю патрэбную рыбу. Трэба тут зазначыць, што наогул раіцца для павышэньня прадукцыйнасьці рыбаводнай гаспадаркі кожны год ўвосень ваду спускаць, а ўвесну перад спускам туды рыбы, зноў папаўняць іх вадою.

Правядзеньне гэтых мерапрыемстваў ужо дае поўную падставу лічыць пруд падрыхтаваным для вядзеньня рыбнай гаспадаркі.

Неабходна яшчэ некалькі слоў сказаць аб мэліарацыі рыбных прудоў, угнаеньні іх і кармленьні рыбы. Значна павышае прадукцыйнасьць рыбаводнай гаспадаркі пэрыядычнае прасушваньне прудоў. Вядома, што пад вадою глеба закісае, заносіцца ілам, пруды зарастаюць часта жорсткаю балотнаю расьліннасьцю, якая паніжае ўраджайнасьць глебы, зьніжае тэмпэратуру вады і гэтым самым дрэнна адбіваецца на прадукцыйнасьці пруда. Вось чаму раіцца 1 раз прыблізна ў 5 год асушваць пруды, дзякуючы чаму сама глеба добра прасыхае, зьнішчаецца яе кіслотнасьць, непатрэбная расьліннасьць проста выкошваецца.

Ня меншым па каштоўнасьці мерапрыемствам зьяўляецца таксама ўгнаеньне прудоў. Угнаеньнем можа быць звычайны саломісты гной альбо кампост, а таксама і мінэральнае. Можна ўносіць ўгнаеньне на дно ў час асушваньня прудоў, а можна проста ўгнаеньне раскідваць кучкамі ў вадзе на мелкіх мясцох. Угнаеньне такім чынам спрые павышэньню лепшай расьліннасьці, якая як вядома зьяўляецца пераважнай спажывай для рыб і гэтым самым павышае іх прадукцыйнасьць.

І нарэшце кармленьне рыбы, само сабою зразумела, зьяўляецца каштоўнейшым фактарам у справе паскарэньня гадоўлі рыбы і атрыманьня больш каштоўнейшых экзэмпляраў. Кормам для карпаў можа быць жыта, жытняя мука, ячмень, наогул розныя збожжавыя культуры, таксама і бабовыя—гарох, лубін і інш. Корм ляпей за ўсё даваць у распараным выглядзе. Даваць яго неабходна ў адзін і той жа час, ляпей усяго раніцою у спэцыяльных кармушках, прымацаваных у няглыбокіх мясцох на дне пруда. Такое штучнае кармленьне дае магчымасьць павялічваць колькасьць рыб у прудох, замест, напрыклад, сярэдняй пасадкі 500 шт. гадавікоў на 1 *га*, можна пусьціць да 1500 штук.

Акрамя карпаў каштоўнейшымі аб'ектамі для рыбаводнай гаспадаркі могуць быць ліні і карасі. Мэтодыка вядзеньня гаспадаркі амаль тая самая, асабліва для карася, што і для карпа, а для ліня яна яшчэ спрошчваецца, дзякуючы чаму разьвядзеньне яго становіцца яшчэ больш даступным.

Лінь ляпей выкарыстоўвае прыродную спажыву прудоў (расьліннасьць), што дае магчымасьць значна павысіць пасадку, добра пераносіць застойлівую ваду, моладзь яго не патрабуе перасадку з аднаго (нераставога) пруда ў другі (летні), што дае магчымасьць скараціць колькасьць прудоў,—усё гэта робіць ліня каштоўнейшай пародай для штучнага рыбаводзтва і заслугоўвае вялікай да сябе ўвагі.

Такім чынам усе вышэйазначаныя заўвагі адносна штучнага рыбаводзтва можна зьвесьці да наступнай простай і найбольш даступнай для калгасаў і саўгасаў схэмы:

1) Падрыхтоўка прудоў яшчэ з восені: 2) раньняй вясною пуск у нераставы пруд рыбы для ікраметаньня; 3) перасадка падросшых рыбак у летні пруд для гадавікоў; 4) увосень перасадка іх у зімавальнік. На II-ю вясну да гэтага дадаецца перасадка гадавальных у пруд для двухгадавалых, з якога ўвосень уся рыба вылаўліваецца для спажываньня. Для ліняў, як ужо была зазначана, схэма яшчэ больш упросьціцца.

Наша Савецкая Беларусь займае адно з першых месц па штучнаму рыбаводзтву поруч з іншымі асноўнымі раёнамі прудавой гаспадаркі, як Украіна, паўднёвая і паўднёва-ўсходняя часткі РСФСР і некаторыя іншыя раёны. Ужо ў 1931 г. плошча рыбаводных гаспадарак дасягнула да 35.000 *га*, з іх значны процант прыпадае на Беларусь. Але ўсё-ж нашы культурныя рыбаводныя гаспадаркі займаюць зусім нязначную частку той вялізарнай плошчы нашых вазёр, прудоў, якімі так багата наша рэспубліка. Тыя-ж, якія і знаходзяцца ў экслёатацыі, яшчэ выкарыстоўваюцца далёка недастаткова.

Наліччa вялікай колькасьці неасвоеных вазёр і прудоў невялічкіх рэчак, наліччa 9181 калгасу і 429 саўгасаў і нарэшце навукова-дасьледчай рыбаводнай станцыі,—усё гэта дае неабмежаваныя магчымасьці самага шырокага разгортваньня культурных рыбаводных гаспадарак.

Партыя і Савецкая ўлада надаюць гэтаму пытаньню вельмі важнае значэньне, што мае сваё адбіцьцё ў адпаведных пастановах аб правядзеньні канкрэтных мерапрыемстваў у справе штучнага рыбаводзва.

Неабходна мабілізаваць увагу ўсёй савецкай грамадзкасьці, адпаведным арганізацыям і ўстановам патрэбна наладзіць адпаведны інструктаж і забесьпячэньне як экзэмплярамі рыб, так і неабходнымі прыладамі.

Толькі такім чынам мы справу разьвіцьця рыбных гаспадарак штурхнем наперад і даб'емся сапраўды значных вынікаў.

**А. Ш—а.**

**У нас усё ёсьць—зямля, трактары, коні, сельгасмашыны, насеньне. Забясьпечыць посьпех веснавой сяўбы залежыць толькі ад нас.**

**ПРЫМУСІМ ЗЯМЛЮ ДАВАЦЬ ВЫСОКІ УРАДЖАЙ!**

# Барацьба з драпежнікамі—баявая задача

„У галіне жывёлагадоўлі ў другой пяцігодцы дамагчыся такога павялічэньня стада і росту таварнай прадукцыі, якія-б садзейнічалі вырашэньню ў асноўным жывёлагадоўчай праблемы для СССР, як гэтага партыя дамаглася ў першую пяцігодку ў адносіне збожжавай праблемы“ (З пастаноў XVII Усесаюзнай партканфэрэнцыі).

На шляхох выкананьня вышэй прыведзенай дырэктывы партыі перад намі бязумоўна ўстаюць значныя цяжкасьці як арганізацыйнага, так і практычнага парадку, якія неабходна зараз-жа прадугледзець і вынайсьці спосабы да іх унікненьня. Гэтым артыкулам нам хацелася-б асабліва завастрыць увагу на адным з момантаў, які даўно адмоўна адбіваецца на даным вучастку сельскай гаспадаркі, аб якім даўно ведаюць усе, ня толькі паляўнічыя, але да зьнішчэньня якога да гэтага часу ня прымалася дастатковых мер: мы маем на ўвазе пытаньне аб правільнай пастаноўцы барацьбы з драпежнікамі сельскай і лясной гаспадаркі.

Гэтай простай ісьціны: неабходнасьць зьнішчэньня драпежнікаў сельскай і лясной гаспадаркі, аднак, ня ведаюць ні Белпушніна, ні Белкаапсаюз. Гэта даводзіцца вельмі проста. У сакавіку месяцы г. г. разглядаўся плян паляўнічай гаспадаркі, дзе быў і пункт аб ахове гэтай гаспадаркі, зьнішчэньні драпежнікаў. Плян складзен Белкахотсаюзам. У гэтым пляне па барацьбе з драпежнікамі прадугледжаны сумы расходу, якія разьмяркованы паміж загатоўчымі арганізацыямі, згодна ўдзельнай вагі кожнай загатоўчай арганізацыі. Асноўны цяжар работы як арганізацыйнага, так і практычнага парадку ложыцца на Белкахотсаюз, а астатнім загатоўчым арганізацыям—вылучыць адпаведныя сумы на гэтае мерапрыемства.

Але Белпушніна і Белкаапсаюз гэтым мерапрыемствам—барацьба з драпежнікамі—парашыла не займацца. Іх справа толькі загатаўляць?!—і адмовілася ад унясеньня пэўнай сумы на ахову паляўнічай гаспадаркі, спасылаючыся на ўсякія аб'ектыўныя прычыны, як: у нас няма грошай па каштарысу на гэту мэту і інш.

А між тым драпежнікі штогод прыносяць вялікія страты сельскай гаспадарцы. Пастаноўка данага пытаньня выключна ў напрамку аховы сельскай гаспадаркі ад нанасімай ей драпежнікамі страты, зусім не павінна быць успрынята чытачамі ўне ўвязкі з другой яго састаўною часткаю: задачай зьнішчэньня драпежнікаў у мэтах павялічэньня нашых экспартных рэсурсаў.

На вялікі жаль, мы не маглі атрымаць матар'ялаў, характарызуючых з усёй яснасьцю страты, якія штогод наносяць драпежнікі сельскай гаспадарцы Беларусі і вымушаны апэраваць толькі данымі мінулых гадоў па СССР. У 1925 годзе статыстыкз па 41 губ. і вобл. (ня ўключаючы Сібіры) паказала зьнішчаных ваўкамі: коняй і жарабят 53.630, кароў і цялят—50.740, дробнай жывёлы—254.220, разам на сумму 4.782.700 руб. У прыватнасьці па б. Віцебскай губ. (другіх губ. Беларусі па статыстычных зьвестках, якія ў мяне*) ёсьць, ня значыцца) коняй і жарабят 870, кароў і цялят—1.000, дробнай жывёлы—8.500, на сумму 82.300 руб. Былі выпадкі і сьмерці людзей у выніку нападу ваўка.

Гэтыя даныя, хаця і няпоўныя, але і яны з поўнай яскравасьцю гавораць аб тым, што наша жывёлагадоўля мае з гэтага боку пастаянную пагрозу фактычных страт, якія не памяншаюцца за апошнія гады.

У нашых умовах асноўным шкоднікам жывёлагадоўлі патрэбна лічыць воўка. Арганізаваная барацьба з ваўком (а таксама і з іншымі драпежнікамі) у нас вядзецца мэтадам аблаў і амаль выключна ў зімовы час, а ў вясеньня-летні час яна замірае. Тады, як вясеньня-летні час зьяўляецца ня менш важным за зімовы час. У зімовы час загатоўчая цана на скуры драпежнікаў дасягае настолькі высокіх разьмераў, што сама па сабе ў дастатковай меры стымулюе зьнішчэньне ваўкоў. Само сабой зразумела, што дамагчыся масавага зьнішчэньня драпежнікаў у вясеньня-летні пэрыяд льга толькі пры наліччы мерапрыемстваў заахвочваньня, якія і праводзяцца, але недастатковa.

Вясеньня-летні пэрыяд зьяўляецца пэрыядам вырошчваньня маладняка. Вось чаму вельмі важна іменна ў гэты момант нанесьці ўдар размнажэньню зьвера (драпежніка). Акрамя таго, дзякуючы наліччу маладняка, у гэты пэрыяд часу ўсе драпежнікі, асабліва ваўкі, вядуць найбольш станцыянарны парадак жыцьця, што значна палягчае магчымасьць іх здабычы шляхам зьнішчэньня ўсяго памёту.

Якія-ж практычныя вынікі работы сыстэмы Белкахотсаюза за 1932 г. у параўнаньні з мінулымі гадамі па зьнішчэньню асноўных шкоднікаў жывёлагадоўлі? Вынікі гэтыя відны з наступнай табліцы:

| Гады | Ваўкоў: Шчанят | Ваўкоў: Старых | Ваўкоў: Усяго | Рысі | Інш. драп. | Разам. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1929-1930 | 300 | 256 | 556 | 20 | 64 | 640 |
| 1930-1931 | 350 | 326 | 676 | 15 | — | 691 |
| 1931-1932 | 480 | 300 | 780 | 24 | — | 804 |

(ЗЬНІШЧАНА)

Бясспрэчна, што і надалей ніякіх наслабленьняў быць ня можа, наслабленьне ўвагі да барацьбы з драпежнікамі самым згубным чынам адбіваецца на становішчы жывёлагадоўлі краіны і стварае пагрозу выкананьню пляну разьвіцьця жывёлагадоўлі.

**Улічым вурокі мінулых гадоў па барацьбе з драпежнікамі! Пасілім увагу да яе як з боку загатоўчых арганізацый, так і самых паляўнічых мас! Арганізуем ударныя брыгады па зьнішчэньню драпежнікаў сельскай і лясной гаспадаркі!**

**Райтаварыствы паляўнічых! арганізуйце вакол гэтага пытаньня працоўнае насельніцтва, практычна кіруйце сваімі паляўнічымі брыгадамі.**

**Чым больш мы зьнішчым драпежнікаў, тым больш мы прынясем карысьці нашай сельскай гаспадарцы і прамысловасьці.**

**Р. Кутылоўскі.**

*) Гл. „П. Б.“ № 41932 г. Арт. Ф. А. Ляліна.

# Пушны зьвярок—нутрыя

Разьвядзеньне пушнага зьвярка—нутрыі ў СССР распачата зусім нядаўна. Нутрыя прывезена да нас з-за мяжы, галоўным чынам з Аргентыны, Англіі і Нямеччыны і зараз накіравана ў фэрмы Казакстану, Паўночнага Каўказу, Ленінградзкай вобласьці, у якіх зьвярок—нутрыя прыручаецца і дасьледуецца яго нораў і звычаі. Акрэмя гэтага выпушчаны пробныя партыі на волю на Паўночным Каўказе ў дэльце ракі Кубань, Дагестане, Азербайджане і Муганскаму стэпу, Закаўказьзі, у даліне ракі Рыон і каля Тыфлісу.

Нутрыя добра акліматызоўваецца там, дзе ёсьць вада, у балотах, каля азёр і рэк. Улетку нутрыя без вады амаль ня можа выжываць, а ўзімку паядае сьнег, які замяняе воду. У СССР нутрыя, галоўным чынам, можа акліматызавацца на поўдні.

Нутрыя пладавітая. У год самка дае 2 памёты па 8 штук маладняку ад кожнага. Маладыя нутрыянята зьяўляюцца на сьвет настолькі разьвітымі, што ў першы дзень выходзяць з гнязда і купаюцца ў вадзе, ня гледзячы ні на мароз у 10—12°, ні на жару. Нараджаюцца нутрыянята густа аброслыя шэрсьцю, відушчыя, з добра разьвітымі зубамі—разцамі.

Для корму нутрыі прыгодна трава, караньплоды, збожжавыя культуры і г. д. На волі, нутрыя робіць у сваю нару 2 ходы: уваход і выхад.

Разьвядзеньне нутрыі — справа ў СССР зусім новая. Біалёгія гэтага зьвярка яшчэ дасканала ня вывучана. Таму перад навукова-дасьледчымі арганізацыямі стаіць пытаньне дасканалага вывучэньня нораваў і ўмоў разьвіцьця нутрыі—гэтага карыснага і каштоўнага пушнога зьвярка.

**Верабеў.**

# Ня бойся, тав. Кручок!

*(Барысаўскі раён)*

Зембінская ячэйка паляўнічых на працягу трох апошніх гадоў парадкам арганізаваных аблаў зьнішчыла 17 маладых ваўкоў і аднаго старога.

За аблавы, вытвараныя ў 1930 годзе і ў 1931 г. райтаварыства паляўнічых, хаця з спазьненьнем, але з ячэйкай разьлічылася, а за аблавы ў 1932 г. належачая ўзнагарода за абклад ваўкоў ячэйцы да гэтага часу яшчэ не выплачана, тады як ячэйка неаднаразова аб гэтым напамінала, як б. старшыні праўленьня тав. Селяўскаму, так і цяперашняму — т. Кручку.

Такія працяжныя зацяжкі ў выплаце прэміяльнай ўзнагароды толькі тармозяць справу зьнішчэньня ваўкоў, абкладчыкі неахвотна ідуць на абклад.

З боку праўленьня райтаварыства паляўнічых практыкуецца яшчэ адна дрэнная прывычка ў адносінах да зьнішчэньня ваўкоў. Гэта тое, што маючы ў сваім распараджэньні некалькі камплектаў сьцяжкоў, апошніх у патрэбны момант ячэйкам не адпускае, яны так увесь час і ляжаць у памяшканьні райтаварыства на шафе. Тав. **Кручок**, мабыць, баіцца, каб ваўкі ня зьнішчылі яго самога, і агарадзіўся ў габінеце сьцяжкамі, а што ваўкі прыносяць вялікую шкоду сельскай гаспадарцы, дык ён мабыць мысьліць, што гэтая справа яго не датычыцца?

Ня бойся тав. Кручок—цябе ваўкі ў Барысаве не зьядуць. А справай зьнішчэньня драпежнікаў паляўнічай гаспадаркі райтаварыства паляўнічых павінна заняцца.

Белкахотсаюзу патрэбна зьвярнуць на гэта ўвагу і прапанаваць райтаварыству паляўнічых безадкладна разьлічыцца з ячэйкай за абклад ваўкоў. Надалей больш уважліва адносіцца да справы зьнішчэньня драпежнікаў, якіх у лясох Барысаўшчыны маецца яшчэ ў значнай колькасьці.

**Абкладчык.**

# Патрэбна дапамога

*(Рэчыцкі раён)*

У Васілевіцкай ячэйцы зусім адсутнічала праца па барацьбе з драпежнікамі на працягу ўсяго 1932 г.

Ваўкі ў калгасе імя Сталіна задушылі 8 коняй, а ў аднаасобнікаў і не пералічыш, колькі чаго задушылі.

Паляўнічая і лясная варта мала цікавяцца гэтай працай. Аблаў ужо гадоў два ня было. Ваўкоў ужо столькі разьвялося і яны так асвоіліся, што ўдзень іх льга пабачыць дзе-небудзь на дарозе ці ў лесе, а ноччу і па вясковых дварох ходзяць. Райтаварыства не пацікавілася гэтай справай і забыла пра аблавы на ваўкоў у Васілевіцкай ячэйцы.

Райтаварыству паляўнічых патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу на гэту галіну работы і памагчы ячэйцы змагацца з ваўкамі і наогул наладзіць працу ў ячэйцы, бо яна да гэтага часу адсутнічае.

**Лясьнік.**

# Не дапусьціць апустошваньня заказьніка

*(Чашніцкі раён)*

На тэрыторыі В.-Альшанскага сельсавету ў 1929 годзе быў васнаваны заказьнік. У заказьніку, дзякуючы добраму догляду з боку таварыства паляўнічых зьявілася шмат дзіцы, як цяцярукоў, зайцоў, вавёрак і нават лісіц.

Але зараз заказьнік запушчаны. Чашніцкае райтаварыства паляўнічых амаль не аддае ніякай увагі гэтай карыснай справе.

У выніку дзіч у заказьніку драпежніцкі зьнішчаецца браканьерамі, бадзячымі сабакамі і г. д.

Трэба павесьці рашучую барацьбу з браканьерамі, якія злачынна апустошваюць заказьнік. Райтаварыства паляўнічых не павінна бязьдзейнічаць!

**Зацікаўлены.**



# ЗА АЎЛАДАНЬНЕ ТЭХНІКАЙ

Праблема аўладаньня тэхнікай—адна з асноўных праблем сацыялістычнага будаўніцтва на даным этапе. Тав. Сталін, у прамове „Аб задачах гаспадарнікаў“ паставіў перад шырокімі масамі працоўных задачу ўдарнага аўладаньня тэхнікай.

Аднак, райтаварыствы паляўнічых да гэтага часу недаацанілі важнасьці задачы аўладаньня тэхнікай. Праўленьнем Белкахотсаюзу спушчаны ў нізавую сыстэму дырэктыўны ліст аб арганізацыі тэхпрапаганды, але райтаварыствамі да гэтага часу дырэктыва Белкахотсаюзу ня выканана. Гэтым, а ні чым іншым, тлумачыцца сыстэматычнае недавыкананьне плянавых заданьняў па пушнамехсыравіне, лектравах, мяса-дзічы, мяса-зайцу і г. д.

Задачы, якія высоўваюцца новымі ўмовамі гаспадарчага будаўніцтва, патрабуюць рашучай перабудовы масавай работы, якая ў многіх таварыствах праводзілася мэтадамі культурніцтва, а не садзейнічала выкананьню пляна загатовак і ўпарадкаваньню работы паляўнічых арганізацый.

У мэтах ліквідацыі прарываў па загатоўках і палепшаньня работы нізавога зьвяна сыстэмы патрэбна правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Замест культкамісій на мясцох павінны быць арганізаваны саветы масавай праверкі, задачай якіх зьяўляецца кіраўніцтва культмасавай работай і тэхпрапагандай.

2. Праводзіць эстафэты па абмену сацыялістычнымі мэтадамі работы і максымальнага выкарыстаньня іх ў справе сацыялістычнага будаўніцтва, выкананьня плянаў загатовак, мабілізацыі сродак і інш.

3. У мэтах максымальнай упартай барацьбы за выкананьне і перавыкананьне плянавых заданьняў па загатоўках пушмехсыравіны і іншых відаў, патрэбна арганізоўваць конкурсы на лепшае выкананьне загатоўчых плянаў, ужываць сацыялістычныя мэтады работы—спаборніцтва і ўдарніцтва.

4. Пры арганізацыі эстафэты, абмену сацыялістычным вопытам, неабходна арганізаваць усіх членаў паляўнічай каапэрацыі на праверку выкананьня дырэктыў ЦК УсеКП(б) аб 5-VIII 1931 г. аб тэхнічнай прапагандзе.

5. Выясьніць, як увязваецца тэхпрапаганда з барацьбой за выкананьне прамфінпляну, павышэньне вытворчасьці працы; паляпшэньне якасьці здабываемай прадукцыі і максымальнае выкарыстаньне творчай ініцыятывы спэцыялістаў і гаспадарнікаў.

6. Скласьці тэхпляны ў кожным райтаварыстве сыстэмы паляўнічай каапэрацыі і ўключыцца ў барацьбу за аўладаньне тэхнікай.

7. Правесьці пры райтаварыствах зьлёты паляўнічых. На гэтых зьлётах намеціць далейшыя шляхі аўладаньня тэхнікай.

Праводзячы зьлёты паляўнічых, паказаць, якую карысьць прыносяць рацыяналізатарскія прапановы ў галіне ахотупарадкаваньня.

8. Арганізаваць грамадзкія суды над зрыўшчыкамі тэхвучобы і бюрократамі, якія затрымліваюць ахотупарадкаваньне.

9. Арганізаваць дошкі тэхнічных навін у паляўнічых кутках, дзе такія маюцца, а дзе не арганізаваны куткі, арганізаваць іх.

10. Арганізаваць у мясцовым друку старонку агляду тэхнічнага ўзбраеньня паляўнічага, выпусьціць спэцыяльныя насьценгазэты, прысьвечаныя тэхпрапагандзе.

У райтаварыствах адказнасьць за правядзеньне агляду тэхпрапаганды ўскласьці на члена праўленьня па культмасавай сэкцыі, які павінен стаць арганізатарам мас на фронце аўладаньня тэхнікай.

Уся работа па агляду павінна праводзіцца пад кутом погляду праверкі масавай тэхвучобы і выкананьня тэхпрамфінпляну. Райтаварыствы у час агляду павінны ўзьняць ініцыятыву паляўнічых на выкананьне і перавыкананьне тэхпрамфінплянаў.

Пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый узьнімем тэхнічны паход паляўнічых на вышэйшую ступень. **Шырока разгарнуўшы тэхнічную прапаганду, даб'емся зьніжэньня сабекаштоўнасьці, паднімем якасьць ахотупарадкаваньня і палепшым вытворчую работу ў райтаварыствах.**

**П—ро.**



Мэханічная ўпакоўка экспартнай пушніны (база Саюзпушніны)

Васіль Каменскі

1964 г.

# ЗАЛАТЫ ФОНД

Пячора—дзікая рака:
То ямы—глыбіня,
То перакат,
Пясок сівы,
То каменьне—
Глыбы пад вадою.
Гульлівая рака.
Ціхая рака.
Вісяць крутыя берагі.
І ўсьцяж ізноў
Лясы, лясы,
Вада ды
Неба поўначы.
Так без канца
І без граніц—
Тайга мядзьведзяў і куніц
І з людзей нікога.
Маўчыць тайга—
Дзе чыя нага.
Толькі хавае
Чароды лебядзей,
Чароды гусей,
Ды качак ўсялякіх парод
І наогул дзічыны зброд.
Маўчыць тайга.
І нікога.
Ага!
Вось людзі.
З-за крутога паварота,
Як у варота,
Выляцела ходка
З дзяўчатамі лодка.
У адзеньні жоўтым,
У пунсовых хустках,—
Лодка з двума зыранкамі.
Адна—на карме,
На носе другая,
У абедзьвіх па доўгім вясьле.
З аднаго боку,
Стоячы грабуць.
Лодку, як вецер,
Па рэчышчу нясуць.
Працуюць заўзята,
Працуюць як могуць.
Гэтыя зыранкі
Пошту вязуць.
Дай іх запытаю:
Адкуль? Куды?
Крычаць:
З Тройцка-Пячорска
На Якшу.
Пайшлі!
І яшчэ не даволі!
Гэта—кілёмэтраў паўтараста.
Ня імчацца хутчэй на кані,
У два з палавінаю дні!
У гэтым іх праца,
У гэтым іх „куд“.
А „куд“ па-зырански—пошта.
І дзень яны плывуць,
І ноччу.
Да тэрміну прымчаць незалежна:
Газэты,
Пасылкі,
Лісты.
І зноў якшынскі куд
У Пячорск валакуць.
Гляджу ім ўсьлед
Па-над рэйкамі:
Зыранкі жаўцеюць,
Лецяць канарэйкамі.
Вось і расталі
У сіняй глушы.
І зноў нікога.
Ані душы.
Едзем ды едзем.
Вяслом за вясло.
Едзем мядзьведзем—
Куды занясло.
Уніз за бегам ракі
Прыемна цячы
Ракой незнаёмай
Па сьвяту сустрэчы.
Поўнач, як лёд,
У казкі адзеты:
На кожнай
Узбярэжнай строме
Нам, малагодкам,
Двум пяцігодкам,
Паказвае
Дзіўныя малюнкі.
А мы, непаслушныя,
У перабор
Песьні пяем
Пра свой залаты вадазбор.
Мы ведаем,
Што Поўнач
Разробім ў дым:
Стане наш поўнач,
Як мы, маладым.
Там, дзе ў тундры
Аленям адвод—
Там задыміць
Лесапільны завод.
Там, дзе на Ўхце
Нафта цячэ,—
Там разгорнем
Па-бакінскі разьлік.
Там, дзе вугаль
Ляжыць ў гарах,—
Паімчым гэты вугаль
На ўсіх парах.
Там, дзе жалеза
Знойдзем у руднях,—
Будзе жалеза
Ў нашых руках.
Там, дзе для тачэньня
Каменьне ў цяні,—
Будзем тачыць імі
Новыя дні.
Там, дзе пушніны
І рыбы запас,—
Вазьмем гэты груз
На буксірны баркас.
Там, дзе лясоў
Няскончаны сон,—
Там залаты
Народзіцца фонд:
Поўнач пазнае
Машынны знароў,
Поўнач адчуе
Рабочую кроў.
Поўнач пачуе
Гарачыя песьні,
Поўнач, культурай
Народжаны, уваскрэсьне.
Там, дзе бязьлюдзьдзе
Закована лёдам,
Вырасьце ленінскі
Сонечны дом.
Тады не на лодках
Паплывем у Мамылі—
Нас павязуць
Па рэчцы караблі.
Тады не аленяў
Пацягнецца быль—
Зашуршыць па дарогах
Аўтамабіль.
Не аб чым будзе
Тады мне пісаць—
Жыцьцё тут само
Разьвіне свой паказ,
Як найляпей
І пышна!
І вельмі прыемна!

Пераклад з рускае мовы

Здапа ў набор—15/IV-33
Падпісана да друку—23/IV-33
Набірала брыгада т. Нячаева
Адк. кар. друк. М. Кахановіч

Рэдкалегія: Волдынь, Вільдфлуш, Кутылоўскі.
Адказны рэдактар: К. Волдынь.


Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1114. 12.800 экз. Мен. Гарліт № 1336.